# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№ 32 (46) 15—21 кастрычніка 1993 года Кошт 25 рублёў



**«ПАСЛУХАЙЦЕ НАЦЫЯНАЛІСТА».** Гутарка са старшынёй НДПБ.

**«ОЙЦОВІЗНА»** Тадэвуша Гавіна. Урыўкі з дзёньніка.

На карнавал у **КАРАЛЕЎСКУЮ КРАІНУ.** Падарожныя зацемкі.

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ** на тыдзень: Менск — Варшава — Масква.


## Рэакцыя пакаштавала сувэрэнітэту. «Мы и время» пакуль не забаранілі

**12 кастрычніка рэдакцыю «Пагоні» наведаў народны дэпутат Беларусі, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады сп. А. Трусаў. Ён адказаў на пытаньні аб сёньняшняй палітычнай сітуацыі і яе разьвіцьці ў бліжэйшы час.**

Безумоўна, апошнія падзеі ў Расеі адаб'юцца й на Беларусі. У чым гэта можа выражацца? Наша рэакцыя зашыецца ў норы. І я не сумняваюся, што зараз ужо ня будзе размоваў пра канфэдэрацыю, фэдэрацыю або якое іншае аб'яднаньне. Таму што яны цудоўна разумеюць цяпер, што каб мы былі ў складзе Расеі, дык сёньня была б забаронена кампартыя й закрыта «Мы и время». Такім чынам, нават яны зразумелі, што такое сувэрэнітэт...

Я думаю, што Бог нам даў яшчэ адзін шанц застацца незалежнай дзяржавай. Па крайняй меры, пакуль у Расеі адбудуцца выбары ў парлямэнт і прэзідэнцкія. Мне здаецца, што датуль наша рэакцыя будзе сядзець ціха і чакаць, чым там усё скончыцца.

Для дэмакратычных сілаў на Беларусі, такім чынам, зноў будзе шанц узмацніць свае ўплывы, а гэта можа паспрыяць таму, што Вярхоўны Савет нават згодзіцца на перавыбары ў наступным годзе. Праўда, яны могуць правесьці іх па старому выбарчаму закону, толькі крыху падправіўшы яго.

Мне здаецца, што дэмакратычныя сілы павінны дамагацца новага выбарчага закону. Лепей тады наогул не ісьці на выбары і чакаць 1995 года, чым паддацца на правакацыю, бо на выбарах па старому закону, па крайняй меры, на вёсцы, зноў пройдуць тыя ж самыя людзі.

А магчымасьць датэрміновых выбараў у нас існуе. На іх ужо пайшлі Украіна з Расеяй. Гэта можа паўплываць на наш ВС, ён можа запланаваць іх на наступны год і, хутчэй за ўсё, на восень. Калі яны выкасаюць з закона палажэньне аб грамадзкіх арганізацыях, але пакінуць былымі акругі і колькасьць дэпутатаў, дык мы наўрад ці атрымаем што на такіх выбарах. Таму яшчэ раз паўтару: усім нам трэба змагацца за нармальны выбарчы закон...

Да канца года можна будзе крыху лягчэй уздыхнуць, але расслабляцца ня варта. Каб дасягнуць нечага, трэба працаваць. Час нам спрыяе. Гэтая сэсія дасьць магчымасьць выйсьці на трыбуну й выказаць свае думкі аб апошніх падзеях і цяперашняй палітычнай сітуацыі. Тым больш, што Шушкевіча яны ўжо ня будуць старацца зьняць, а таму поўнай перамогі рэакцыі не чакаецца...

**Занатаваў С. А.**



## Каліноўцы пікетуюць

Грамадзка-палітычнае аб'яднаньне імя К. Каліноўскага правяло 9 кастрычніка з 11.30 да 16 гадзін на Савецкай плошчы акцыю-пікет. Праз гэты пікет прайшло каля дзьвюх тысяч чалавек, якія падтрымалі патрыятычна настроеных каліноўцаў. Сябры аб'яднаньня, выкарыстоўваючы мэгафон, плакаты, паведамлялі аб палітычнай і эканамічнай сітуацыі на Беларусі, выказвалі незадаволенасьць ёй, гаварылі аб штучна створаным энэргэтычным крызісе, выступалі супраць уваходжаньня рэспублікі ў рублёвую зону і сістэму калектыўнай бясьпекі, супраць стварэньня эканамічнага саюзу, зьвярнуліся са зваротам да гарадзенцаў, у якім асудзілі дзейнасьць ПКБ, ДСПС, славянскага сабора «Белая Русь», саюза афіцэраў і падтрымалі дэмакратычныя сілы Расеі.

Зараз аб'яднаньне імя Каліноўскага праводзіць работу сярод насельніцтва, у рабочых і студэнцкіх інтэрнатах, на прамысловых прадпрыемствах, выкарыстоўвае ўлёткі і іншыя сродкі інфармаваньня, з дапамогай якіх заклікае жыхароў Горадні і вобласьці выступіць супраць «Антыбеларускага, пракамуністычнага Вярхоўнага Савета і ўрада» на плошчы Незалежнасьці ў Менску — у час чарговай сэсіі парлямэнта, яны не задаволены тым, што ў такі складаны час адкрыцьцё сэсіі прызначана ажно на 9 лістапада.

## Дык хто ж будзе замест Арцымені?

У аўторак, 12 кастрычніка ў Гарадзенскім аблвыканкаме адбылася нарада старшыняў гарадзкіх і раённых выканаўчых камітэтаў. Яна была прысьвечана толькі аднаму пытаньню: хто заменіць на пасадзе старшыні вабласнога Савета нябожчыка Арцыменю. Выявілася, што прэтэндэнтаў на яе нават больш, чым меркавалася раней, а менавіта: старшыня Гарадзенскага гарсавета Домаш, старшыня аграпрамысловага камбіната «Прагрэс» Дубко, старшыня Гарадзенскага райвыканкама Алізаровіч, загадчык сельгасаддзела аблвыканкама Логвін, намесьнік старшыні вабласнога савета, а раней другі сакратар абкаму КПБ Машко і, нарэшце, былы першы сакратар абкаму Сямёнаў.

На нарадзе прысутнічалі саўмінаўскія чыноўнікі, якія паведамілі, што ўрад спыняецца на двух першых прозьвішчах: Домаша і Дубко, але нікому з іх ня робіць перавагі. Аднак адчувалася, што ўсё ж тамака быў бы больш да спадобы менавіта Дубко. Пасьля гэтага кола ўдзельнікаў нарады звузілася: у зале засталіся выключна толькі старшыні выканкамаў. Як нам стала вядома, яны спынілі свой выбар на кандыдатуры С. Домаша.

Аднак гэтая нарада мае толькі дарадчую функцыю. У пятніцу сваё рашэньне пryме прэзідыум вабласнога Савета народных дэпутатаў. Калі ён не спыніцца на адной кандыдатуры, а прапануе абедзьве, г. зн. і Домаша, і Дубко, дык ня выключна, што ні адзін з іх ня здолее сабраць на сэсіі патрэбнай колькасьці галасоў, а таму можа ўсплыць і трэйцяя кандыдатура, магчыма, нават менская.

Новы старшыня Гарадзенскага вабласнога Савету будзе абраны на пазачарговай сэсіі, якая будзе праходзіць за дзень да чарговай, а менавіта — 21 кастрычніка. На яе чакаюць прыезда старшыні ўрада Кебіча.

**А. А.**

### Дынар «схуднеў»

У верасьні сэрбскі банк выпусьціў паперку вартасьцю ў 1 млрд. дынараў. А цяпер вось адбылася дэнамінацыя югаслаўскіх грошай — скасавана ажно шэсьць нулёў. Імклівая дэвальвацыя выклікана вайной, якую вядзе Сэрбія ў суседніх дзяржавах і зьвязанай з гэтым эканамічнай аблогай яе з боку іншых краін.

Жыцьцё ў Белградзе вельмі дарагое. Мыла, бэнзін — у 42 разы даражэйшыя, чымсьці ў Новым Ерку, а заробкі меншыя ў 100 разоў. У дзень дэнамінацыі дынара ў крамах зьявіліся даўно ня бачаныя алей, какава, швэйцарскі сыр.

### «Жалезны воўк»

Прэзідэнт Летувы А. Бразаўскас спаткаўся з кіраўніцтвам Дэпартамэнту аховы краю, камандваньнем палявой брыгады «Жалезны воўк», каманьдзірамі батальёнаў. Спадар прэзідэнт выказаў абурэньне выпадкам дэзэртырства са зброяй групы жаўнераў, сказаўшы, што гэта пашкодзіла міжнароднаму прэстыжу Летувы. Ён таксама засьведчыў, што «дзяржава можа мець такое войска, якое здольна ўтрымваць».

### Вельмі дарагі Бэрлін

Паводле падлікаў перанос нямецкай сталіцы з Бону ў Бэрлін будзе каштаваць амаль 13 мільярдаў марак. Для праціўнікаў Бэрліна гэта фантастычная сума, а для прыхільнікаў — зусім «затанна». Хто ж з іх пераможа? Час пакажа.

Як стала вядома рэдакцыі «Пагоні», усе будаўнічыя працы па ўзьвядзеньню ў аэрапорце «Абухава» міжнароднага корпусу для абслугі замежных пасажыраў спынены з-за адсутнасьці сродкаў.

### У лютэран юбілей

Эвангэлічна-лютэранская абшчына была створана ў горадзе 17 кастрычніка 1793 года і дзейнічала да 1941 года. 5 мая бягучага года адноўлена. 1 ліпеня адбылося аб'яднаньне абшчыны з Гарадзенскай Хрысьціянскай місіяй «Добрая вестка». Па колькасьці прыхаджан лютэранская выйшла на 5-ае месца сярод канфэсій Горадні. У нядзелю спаўняецца 200 год з дня стварэньня абшчыны. Старшыня яе савету Сакаловіч В. Г. сказаў наступнае: «Наша абшчына вітае прадстаўнікоў мусульманскай, каталіцкай, праваслаўнай і іўдзейскай канфэсій і спадзяецца на далейшае супрацоўніцтва з імі».

**А. ДУК.**

## Беларуская Аўстралія

**Беларускія эмігранты ў Аўстраліі ёсьць, магчыма, найменш значнай этнічнай групай з усіх другіх нацыянальнасьцяў. Аднак, нягледзячы на тое, што Беларусь знаходзіцца на другім баку сьвету ад Аўстраліі, беларусы мелі кантакт з ёй амаль што ад самага пачатку засяленьня гэтага кантынэнту-краіны эўрапэйскімі асаднікамі...**

**Першым беларусам у Аўстраліі быў Іван Потаскі, або Потацкі, каторы прыбыў сюды прыблізна ў 1804 годзе і ў 1824 годзе жыў у г. Гобарт на востраве Тасманія. Далейшы лёс гэтага суродзіча невядомы.**

Як вынік трагічных падзей на Беларусі падчас 2-й Сусьветнай вайны, у Заходняй Эўропе апынулася даволі вялікая і нацыянальна сьвядомая беларуская эміграцыя, частка якой як перамешчаныя вайной асобы, апынуліся ў Аўстраліі як эмігранты. Эміграцыя беларусаў у Аўстралію пачалася ў 1947-м годзе, калі спачатку невялічкая колькасьць самотных дзяўчат і хлопцаў, а пасьля цэлыя сем'і пачалі прыяжджаць у розныя галоўныя гарады Аўстраліі. Дакладных дадзеных і дакумэнтальных доказаў таго, колькі прыехала ў Аўстралію беларусаў няма, але лічыцца, што іх было 9—10 тысяч. Трэба, аднак, адзначыць, што толькі невялікая колькасьць з іх прыехала афіцыйна запісанымі як беларусы, а ў пераважнай бальшыні былі зарэгістраваны, як грамадзяне розных перадваенных краін Эўропы.

Беларусь і беларусы былі вельмі мала знаныя ў Аўстраліі і сьвядомым беларусам прыходзілася выдаваць ды трацiць вялікія высілкі і час, каб паясьніць, што Беларусь ёсьць фактычна асобнай і багатай гісторыяй і культурнай нацыяй... Вялікая частка эмігрантаў беларускага паходжаньня ня мела дастатковa нацыянальнай сілы, каб змагацца з усімі паўстаўшымі цяжкасьцямі, і яны доўгі час хаваліся пад чужой нацыянальнасьцю,...

(Працяг на 5-й стар.).

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## 40 хвілін ля Белага дома

**Так здарылася, што ў дзень загаду прэзідэнта Расеі Б. Ельцына аб датэрміновым роспуску Вярхоўнага Савету гэтай краіны гарадзенец М. Айрапецян апынуўся ў самай гушчы падзей. Ен бадай гадзіну знаходзіўся сярод тых, хто зьбіраўся бараніць збанкрутаваўшы парлямэнт...**

Каля будынка парлямэнту я апынуўся ў 13.00. Ідучы, спадзяваўся ўбачыць натоўп міліцыянтаў, але мае надзеі ня апраўдаліся. З боку Цьвярской вуліцы, якою я трапіў да Белага дому, стаяла 10 жаўнераў унутраных войск. На адлегласьці 250—300 мэтраў ад Белага дому разьмясьцілася група людзей, сярод якіх выдзялялася група з 6 чалавек. Пазнаю сярод завадатараў «гэнэрала-патрыёта» Сьцерлігава. Спрабую лепш пачуць іх прамовы, праціскаюся цераз натоўп бліжэй. Маніфэстанты ўсяляк замінаюць мне. Узіраюся ў вочы некаторых з іх і адчуваю ў позірках насьцярогу. Разумею, што для гэтых людзей я чужы, бо ўсе яны па ўзросту падыходзяць мне ў дзяды ды бабулі. Маладых жа на пляцы бадай не відно, і я сваім узростам выклікаю падазронасьць. Чую іх галасы аб тым, што яны будуць аддана бараніць савецкую ўладу.

З затоенай насьцярогай падыходжу да «абарончых умацаваньняў» з заржавелай арматуры. Сярод гэтага некалькі бэтонных блёкаў — сьведкаў падзей 1991 года, на іх надпіс — «абаронім Расею». Над усім зломам лунаюць чырвоныя штандары з сярпом і молатам. Уздоўж барыкады стаяць вартавыя з ліку дабраахвотчыкаў. Яны з лянотай пазіраюць у мой бок. Я іду бліжэй да Белага дому. На яго прыступках стаіць дужа людзей. Калі прыглядзецца, я зразумеў, што большасьць з прысутных — рэпарцёры і аматары-экскурсанты накшталт мяне. Сярод гэтага люду сноўдаюць зборшчыкі ахвяраваньняў на патрэбы абаронцаў. Перад тэлевізіёншчыкамі, як на дэманстрацыі модаў, дэфілююць некалькі чалавек з лёзунгамі. На іх надпісы — «России — русское правительство» і зьдзіўляюся, каго ж тут зьбіраюцца бараніць прысутныя. Нібыта ўсе яны інтэрнацыяналісты, але выступаюць за Расею.

Уваход да Белага дому ахоўваецца міліцыянтамі. Непадалёк аховы замацаваны мікрафон, куды з прамовамі па чарзе падыходзяць прадстаўнікі «працоўнага класу». На іх адкормленых абліччах няма нічога ні рабочага, ні сялянскага. Сьледам за выступаючымі бярэ слова «прадстаўнік студэнцтва». На выгляд дзядзьку гэтаму гадоў 45—50. Але ён нешта мармыча пра бясплатную адукацыю, стыпэндыю і інтэрнат, у якім ён жыве з сям´ёй 10 год. «Студэнту» пляскаюць у ладкі, а я заўважаю, што слухалі яго чалавек 40 і ня больш.

Леваруч ад трыбуны ідзе запіс у атрад самаабароны. Жадаючых ня болей 20 чалавек. Запіс вядзе палкоўнік расейскага войска і адначасова адказвае на пытаньні замежных журналістаў. Палкоўнік ставіцца да журналістаў нахабна й цынічна, і, як між іншым, заяўляе, што ў выніку правалу абароны ён ня трапіць у турму, бо тут абараняецца бацькаўшчына. За працу таксама гэты палкоўнік спакойны, у горшым выпадку яго перакінуць у іншае месца службы.

Людзей у вайсковай форме зусім мала. Мільгане сярод абаронцаў дзе-нідзе чалавек у вайсковым адзеньні ці ганарова пройдзецца які-небудзь вэтэран у казацкай бурцы.

У 13.00 з боку Чырвонапрэсьненскага ўзьбярэжжа пачынае сваё шэсьце праваслаўная грамада. Наперадзе ідучых харугвы сьвятары і хоры, шэсьце накіроўваецца ў самы цэнтр мітынгуючага кола. Чуюцца прамовы сьвятароў, гучаць сьвятыя песьні.

Як ня дзіва, а людзей нападпітку няма. Ля кастрышчаў утульна разьмясьціліся бяздомнікі. Яны працягваюць рукі да агню, узрушана сьмяюцца, зазываюць пагрэцца.

Нейкі вэтэран робіць навід сталай жынчыне, у руках якой плякат з абразьлівым надпісам расейскаму прэзідэнту.

Тых, хто заклікаў людзей на пляц, сярод абаронцаў не відно. Яны ў сярэдзіне гмаху. На вуліцу праз рэпрадуктары ліюцца іх выступленьні.

Як мне падалося, час тых, хто знаходзіцца ў будынку і на пляцы, ўжо мінуў.

**М. АЙРАПЕЦЯН,**
**сябра БНФ.**

## Замэнгоф, унук Замэнгофа

**Невысокі, апрануты вельмі сьціпла ўнук Лазара Замэнгофа Лоіс стаяў сярод удзельнікаў міжнароднай канфэрэнцыі эспэрантыстаў. Адзінае, што выдзяляла Лоіса — гэта асаблівая, урачыстая павага дэлегатаў. Найбольш завіхалася перад госьцем старшыня беларускай асацыяцыі эспэрантыстаў Л. Воўкава. Менавіта з яе дапамогай кар. «Пагоні» ўдалося пагутарыць з высокім госьцем.**

**— Спадар Замэнгоф, якія вашы ўражаньні ад наведваньня Горадні?**

— Наведаць горад, дзе працаваў і тварыў мой дзед, вельмі прыемна. Мне даўно хацелася прыехаць у мясьціны, дзе бываў мой продак. На жаль, толькі ў сталым узросьце мару ўдалося зьдзейсьніць.

**— Вы мяркуеце прайсьціся шляхамі Лазара Замэнгофа ў час гэтага падарожжа?**

— Папярэдне я наведаў Аўстрыю. Жыў там каля месяца. Хадзіў на выставы, што прысьвечаныя майму дзеду. З задавальненьнем адзначу, што там, дзе я быў, высока шануюць памяць аб Л. Замэнгофе.

**— А што можна сказаць пра ўшанаваньне памяці вашага дзеда тут, у Горадні?**

— Я першы раз ў Горадні, і тое, што тут убачыў, прыемна ўражвае. Выстава, якую арганізавалі беларускія эспэрантысты, вельмі яскрава адлюстроўвае ня толькі пэрыяд жыцьця ў Горадні Л. Замэнгофа, а й расказвае нам усім аб гісторыі эспэрантысцкага руху на Беларусі. Лічу, што й на Беларусі таксама глыбокія карані мовы эспэранта, аднак, адзначаючы пазытыўнае, не магу абмінуць і адмоўнае. Першае — абыякавасьць ураду ў адносінах да самой рэспубліканскай асацыяцыі. На сёньня эспэрантысты вашай дзяржавы ня маюць свайго памяшканьня. Адсутнічае з боку ўраду й жаданьне матэрыяльна падтрымаць эспэрантыстаў. Другое — у сьвеце імем Л. Замэнгофа названы сотні вуліц, устаноў. Тут жа, на Беларусі, фактычна няма нічога. Кажуць, што ў Горадні ёсьць нейкі мэмарыяльны знак. Абавязкова схаджу й пагляджу. Але ведаеце, гэтага мала, бо за кошт прапаганды мовы эспэранта, яе гісторыі Беларусь змагла б прыдбаць сабе многа прыхільнікаў у сьвеце. Думаю, калі гэта здарыцца, то ў Эўропе значна зьнізіцца колькасьць тых, хто шукае дзяржаву Беларусь у Афрыцы ці ў Палінэзіі.

**— Няўжо мова эспэранта так папулярная ў сьвеце?**

— Безумоўна, бо мой дзед Лазар Замэнгоф стварыў яе як мову міжнародных зносін, узаемапавагі і любові.

Ведаеце, я неяк спытаў дзеда, чаму ён стварыў такую мову. Ён адказаў мне так: « Унучак, я нарадзіўся і жыў у краі, дзе існавала шмат рэлігій і моў. Часам людзі, якія жылі ў адной вёсцы, не маглі паразумецца. З-за гэтага між імі часта былі крывавыя сутычкі. Таму, каб пазьбегнуць канфрантацыі як на мікра-, так і на макраўзроўні, я вырашыў стварыць адзіную мову і рэлігію, якая б адпавядала ўсім. Гэтага прынцыпу і прытрымліваюцца ўсе эспэрантысты сьвету. Як бачыце, да вас прыехала мноства замежных гасьцей, якія дагэтуль не былі знаёмыя, але дзякуючы мове эспэранта, выдатна разумеюць адзін аднаго.

**— Дзякуй вам, спадар Замэнгоф, за гутарку. Пажадаем мове эспэранта зьдзейсьніць сваю галоўную мэту аб´яднаньня рознамоўных людзей.**

**Гутарыў Г. АСТРОЎСКІ.**

## Памылкі прапаршчыка і палкоўніка

Глядзеў, як вывучалі беларускую мову афіцэры й цывільныя службоўцы ваблаcнога ваенкамату Горадні. Настаўніца тлумачыла дарослым вучням, што такое зычныя і глухія галосныя. Некаторыя з афіцэраў, аднак, з пагардай ставіліся да беларускага выслоўя, кпілі. Але пэдагог працягвала ўрок і, нарэшце, скончыўшы тлумачэньні, перайшла да высьвятленьня, як вучні засвоілі праграму.

Першаму давялося адказваць маладому прапаршчыку. Патупаўшыся ля дошкі, ён узяў крэйду й пачаў пісаць пад дыктоўку сказ. Калі падафіцэр адужаў напісаць прадыктаванае, то высьветлілася, што ў кожным слове па дзьве-тры памылкі. Дапамагчы свайму калегу выказаўся адстаўны палкоўнік. Апынуўшыся ля дошкі, ён выправіў напісанае, але таксама зрабіў гэта недакладна. Спрабуючы апраўдаць сябе й свайго калегу, палкоўнік сказаў:«Я ж з Украіны, і заўжды думаў, што руская, беларуская і ўкраінская мовы аднолькавыя і адрозьненьняў між сабой ня маюць. Таму на працягу ўсёй службы вёў справаводзтва адвольна і ніколі за свой правапіс ня меў турбот»...

**Г. У.**

## «Паслухайце

**Анатоль Астапенка — старшы выкладчык Менскага тэхналягічнага інстытута, кандыдат фізыка-матэматычных навук, спэцыяліст па камп´ютэрнай тэхніцы. І ён жа — лідэр Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі. Пра ягонае стаўленьне да праблем грамадзкага жыцьця і апавядае гэтае інтэрв´ю.**

— Найперш, я выкажу наступную думку. Нацыянальнасьць — галоўны атрыбут асобы. І гісторыя сьведчыць, што толькі на падставе нацыянальнай ідэі можна вывесьці грамадзтва да заможнага жыцьця. Узгадайце пасьляваенную Гэрманію, Японію, скандынаўскія краіны. А на якой ідэі вялася нацыянальна-вызваленчая барацьба ў Афрыцы напачатку 60-х гадоў? Дарэчы, былы СССР усяляк дапамагаў нацыяналістам набыць незалежнасьць іх краінам, зрабіўшы выгляд, што там нібыта робіцца сацыялістычныя рэвалюцыі, хаця сацыялізмам там і ня пахла, і ніхто ня думаў яго будаваць. Афрыканцы згуртаваліся вакол нацыянальнай ідэі.

**— Добра, калі нацыя вялікая, значыць, і нацыянальная ідэя моцная. А калі нацый многа ў канкрэтнай дзяржаве, чыя ідэя галоўная? Хіба шляхам зброі даказваць! Скажам, у Беларусі жывуць нацыянальныя меншасьці.**

— Якраз задача нацыянал-дэмакратаў давесьці да ведама беларуса, што ён, і толькі ён, тут адзіны гаспадар. А ўсе этнічныя групы, якія жывуць побач, толькі госьці ў нашым доме. Беларусы — нацыя гасьцінная і добразычлівая да ўсіх, але не павінна трапляць у залежнасьць ад гэтых гасьцей. Сёньня ж часьцяком бачым такую залежнасьць.

**— Яшчэ з пяток гадоў назад за такую пазіцыю можна было б трапіць у лепшым выпадку на гутарку ў так званыя кампэтэнтныя ворганы.**

— Чаму толькі пяць гадоў назад? Заўсёды нацыянал-дэмакратаў перасьледавалі, саджалі ў турмы, зьнішчалі. Гісторыя пра гэта добра ведае. Возьмем канец 20-х, 30-я гады, пасьляваенныя часы. Менавіта слова «нацдэм» было, як прыгавор чалавеку. Усю інтэлігенцыю Беларусі павыразалі ў сфабрыкаванай справе «ворагаў народа». Нездарма ж Купала зрабіў спробу скончыць жыцьцё самагубствам, калі і яго пачалі цягаць «кампэтэнтныя ворганы». Вось да якіх асоб дацягнуліся крывавыя рукі сталіністаў. Пасьля аказалася, што ўсе абвінавачваньні — выдумка. Пачалася рэабілітацыя. Але хіба мёртвых уваскрэсіш? У бязьлітасным зьнішчэньні нацыянальна сьвядомай часткі насельніцтва цяперашняя наша бяздухоўнасьць, пакорлівасьць ліхадзеям, прыгнечанасьць, калі хочаце, баязьлівасьць. Насельніцтва рэспублікі і да вайны было больш 10 мільёнаў, і цяпер дасягнута такая ж лічба. Толькі за кошт каго? Хто заняў месцы тых, хто аддаў свае жыцьці за вольную Беларусь? Прыежджыя. Яны цяпер і верхаводзяць ва ўрадзе, вызначаюць палітычны курс краіны. Абараняюць інтарэсы найперш суседніх дзяржаў.

**— Бедзем лічыць, што беларусы страцілі сваю нацыянальную сьвядомасьць. Аднак зьявілася на палітычнай карце Беларусі НДПБ — і хіба скранулася з месца справа адраджэньня!**

— У нейкай меры так. Але адраджэньне працэс — гэта клопат усіх дэмакратычных сіл. Перабудова і галоснасьць — вось пачатак руху наперад у выхаваньні нацыянальнай самасьвядомасьці. Аднак перашкод на гэтым шляху штогод усё больш...

**— І ў чым тут прычына?**

— Я ўжо адзначыў, што нацыя беларуская на працягу стагоддзяў вынішчалася войнамі, якія адбываліся на яе тэрыторыі, сотні тысяч былі выгнаны ў палон, дзе асіміляваліся. Карэнных беларусаў ці ліцьвінаў, іх нашчадкаў засталося няшмат. Іншыя памянялі веру і нацыянальную прыналежнасьць. Што засталося? Тыя, каму пачуцьцё радзімы невядомае, так званыя, па-руску кажучы, «перекати поле». Ім што Прыбалтыка, што Беларусь, што Закаўказьзе — усё аднолькава. Абы каўбаса была.

**— Зыходзячы з гэтага, кожны сумленны беларус павінен быць у шэрагах нацыянальна-дэмакратычнай партыі. Але, наколькі мне вядома, сяброў НДПБ сабрала няшмат.**

— Крыху больш або менш, чым у іншых партыях. Ды не імкнемся мы да шматлюднасьці. Вопыт паказаў, што былі партыі, якія налічвалі мільёны, КПСС, напрыклад. А разваліліся вокамгненна. Відаць, ня колькасьць вырашае справу. Тыя ж бальшавікі мелі каля 300 тысяч, а ўладу захапілі. Эсэры налічвалі куды больш — і аказаліся на сьметніку гісторыі. Тут справа ў мэтадах вядзеньня палітычнай барацьбы: нехта больш спадзяецца на сякеру, а нехта на парлямэнтарызм.

**— А на што спадзяецца нацыянальна-дэмакратычная партыя!**

— Наша мэта — пабудова дэмакратычнага грамадзтва. Ліквідацыя манаполіі камуністычнай аднапартыйнасьці. Стаўленьне ў цэнтр каштоўнасьці чалавечай асобы, яе разьвіцьцё праз нацыянальнае. Быць беларусам — не абмяжоўвацца толькі веданьнем беларускай мовы. Гэта адчуваньне сябе беларусам у гістарычным і гэапалітычным ракурсе. Што азначае веданьне гістарычнай праўды аб Беларусі, усьведамленьне сваёй адметна беларускай мэнтальнасьці, якая не ўласьціва ні ўкраінскай, ні расейскай нацыям. Усьведамленьне сябе не як брата расейца, усё роўна якога — старэйшага ці малодшага, а ўсьведамленьне сябе праз адваротнае: уся гісторыя беларусаў была не жыцьцём у адной з расейцамі сям´і, а бясконцымі з імі войнамі.





# РЭФЛЕКСІІ

## Змрочны прагноз

У Маскве праваліўся фашыстоўска-камуністычны путч. Армія ўзяла штурмам «Белы» дом, арыштаваныя Р. Хазбулатаў, А. Руцкі, В. Баранькаў, А. Дунаеў, В. Ачалаў, А. Макашоў, С. Бабурын і іншыя, забароненыя фашыстоўскія і камуністычныя партыі, спынены друк іх газэтаў і часопісаў. Сілы бясьпекі ачышчаюць Маскву ад снайпэраў і тэрарыстаў. На сьнежань прызначаныя новыя выбары: ніякіх камуністычных кандыдатаў балатавацца ня будзе...

На Беларусі Прэзідыум Вярхоўнага Савету, які «найлепш працуе ў шоку», таксама быццам бы згадзіўся на новыя выбары паводле новага выбарчага права вясной 1994 году. Сацыял-дэмакраты дамагаюцца адстаўкі ўраду і нават разьлічваюць на посьпех, практычна ўсе партыі па-за камуністамі асуджаюць путчыстаў, падтрымваюць рэформы, дамагаюцца адстаўкі В. Кебіча, дамагаюцца новых выбараў і г. д. Аднак аніводная ўплывовая асоба на Беларусі ня выказалася ясна адносна камуністаў.

**Любыя камуністычныя арганізацыі, любая камуністычная прэса і сама камуністычная ідэялёгія на Беларусі павінны быць забароненыя законам, а парушальнікі закону — прыцягвацца да крымінальнай адказнасьці.**

У гэтым сутнасьць сягоньняшняй палітыкі. Ня маюць сэнсу аніякія новыя выбары, калі ў іх будуць удзельнічаць камуністы. Таксама трэба лічыцца з тым, што камуністычныя і фашыстоўскія баявікі з Расеі зараз пабягуць ад перасьледаў сюды, на Беларусь, дзе змогуць адседзецца, залізаць раны, перагрупавацца і... выруцшыць у «крыжовы паход» на Маскву! Адсюль жа будзе ажыцьцяўляцца ўся камуністычная прапаганда на Расею — праз «Конгресс народов СССР» і «Конгресс народов Белоруссии», праз «Мы и Время» і «Политика. Позиция. Прогноз», а ня выключана, што й праз адноўленыя тут «День», «Правду» і «Советскую Россию», а да тых жа паслугаў «нашыя легальныя» «Советская Белоруссия», «Рэспубліка», «7 Дней» і г. д. Да таго ж, камуністам практычна гарантаваная падтрымка Ураду і Вярхоўнага Савету: лідэр фракцыі «Беларусь» Г. Казлоў, дэпутат А. Лукашэнка, памочнік прэм´ера Г. Данілаў і супрацоўнік Савету Міністраў С. Гайдукевіч добра вядомыя кантактамі з тымі, хто цяпер сядзіць у маскоўскай Ляфортаўскай турме Міністэрства бясьпекі Расейскае Фэдэрацыі...

Няцяжка ўявіць рэакцыю прэзідэнта Б. Ельцына і прэм´ер-міністра В. Чарнамырдзіна ды эканамічныя наступствы такой рэакцыі для Беларусі! Але ці зразумее «наш Вячаслаў Францавіч», што нельга гаварыць адно, а рабіць другое?! А чым яшчэ наша намэнклятура займалася ўсё жыцьцё?!

Паводле зьвестак «кампэтэнтных органаў» Расеі, цяпер па Маскве рассыпалася **каля 2 тыс.** узброеных фашыстоўска-камуністычных тэрарыстаў. Нават калі на Беларусь перабярэцца толькі дзесятая частка, ці здольныя абараніць нашых людзей ад разбою, пагромаў і гвалтаў нашыя «кампэтэнтныя ворганы», якія прызвычаіліся сачыць за «экстрэмістамі з БНФ», судзіць журналістаў і літаратараў, выкручваць рукі студэнтам і г. д.?!

Зрэшты, пра што я?! Нашыя ўлады і «ворганы» па-ранейшаму думаюць, што гэта ўсё толькі сон, што вось зараз яны прачнуцца і ўбачаць навокал усё так, як у «добрыя старыя часы»... Пра што гаварыць, калі тыя, хто павінен абараняць спакой 10-мільённай нацыі, ня могуць абараніць нават сябе! Патрэбна была трагічная сьмерць дэпутата парлямэнту і старшыні аблвыканкаму, каб пачалі «разрабатывать мероприятия» па ахове вышэйшага дзяржаўнага кіраўніцтва! А між тым, з Усходу ўжо напаўзае «красный террор»...

Каб на мяне надта не пакрыўдзіліся ўлады, таксама паўтару яшчэ раз «відавочнае-неверагоднае»: пасьля ўсяго, што было і раней, і на памяці сягоньняшняга пакаленьня, рэйтынг палітычных сілаў на Беларусі выглядае наступным чынам: тых, каму «ўсё равно» — **дзьве трэція!** «за камуністаў» — **11,8%,** падтрымваюць БНФ — **9,5%;** выказаліся за сацыял-дэмакратаў — **2,1%;** іншыя партыі набралі **менш 1%** паплечнікаў і прыхільнікаў. Такі рэйтынг стала трымаецца цэлы год.

**З 7,3 млн. самастойнага дарослага насельніцтва Беларусі ільготамі карыстаюцца 5,2 млн. чалавек. Старэйшыя за 50 гадоў людзі складаюць 43% насельніцтва. Афіцэраў-адстаўнікоў «всех времен и народов» ня можа падлічыць ніводная статыстыка...**

Бацькі трымаюць за горла дзяцей. Дзеці паміраюць — але затое ў адносным спакоі ды адносным цяпле. На дварах восень. Камуністы зьлятаюцца на Беларусь. Зімаваць...

**Алесь ЧОБАТ.**
**4 кастрычніка 1994 г.**

## Праз прызму маскоўскіх падзей

**Беларусы назіралі за тэлевізійнымі рэпартажамі з Масквы не як дзе-небудзь у Італіі. Тым хаця й непрыемна (які монстр заварушыўся), але Масква далёка. У нас жа наадварот замерла жыцьцё — вельмі ж яно залежыць ад таго, як павернуцца справы ў Расеі. Ну, а паколькі нашыя газэты й тэлебачаньне маюць адну агульную адметнасьць — антыінфармацыйнасьць, таму вакуум, які яны пакідаюць пасьля сябе, запаўняецца іншымі сродкамі.**

### ЧУТКІ

Ходзяць чуткі, што жнівеньская паездка Шушкевіча ў Маскву ня была такой ужо бязвыніковай, як пасьмейваліся ў кулуарах нашых міністэрстваў. Кажуць, Ельцын пачаў нібы ўшчуваць кіраўніка нашае дзяржавы. Маўляў, распусьціў свой парлямэнт, езьдзяць тут дэлегацыямі да Хазбулатава з Руцкім, якіх я разганяць зьбіраюся! А Шушкевіч адказвае: ня слухаюцца яны мяне, ськідаць сабраліся. Барыс Мікалаевіч паслухаў і паабяцаў дапамагчы.

А калі 24-га верасьня самаўпэўнены Кебіч прыехаў у Маскву падпісваць эканамічнае пагадненьне, Ельцын адвёў яго ў бок і кажа: «Ськінеш Шушкевіча, я табе адразу ўсе краны перакрыю. Наглуха!» Прыехаў Вячаслаў Францавіч з Масквы й, пазабыўшыся пра свае гомельскія выказваньні, выступіў у прэсе: у нас, на Беларусі, няма канфлікту паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі...

Вось такія чуткі ходзяць.

### НЕДАРЭЧНАСЬЦІ

На наступную раніцу пасьля ўзяцьця «Белага» дому ў менскіх шапіках ляжала адна чыкінаўская газэтка «Мы і ўрэмя». А там... партрэцікі Руцкога з Хазбулатавым, «хунта Ельцына» і «справядлівы народны гнеў». Нават заява абуранай інтэлігэнцыі, падпісаўшы якую, непрыемна «засьвяцілі-ся» актор Гасьцюхін, рэжысёр Тураў і «жывы клясік» ад жывапісу Міхал Савіцкі.

### ГІСТАРЫЧНЫ ШАНЦ

Людзі кажуць, што Зянону Пазьняку другі раз за два гады прадстаўляецца гістарычны шанц напоўніцу ўзяцца за бальшавікоў.

Ён, дарэчы, ня прымусіў сябе доўга чакаць.

### ВЫКАЗВАНЬНІ

Сакратар ЦК ПКБ таварыш Чыкін сказаў, што ня верыць аніводнаму слову, што гучыць па тэлебачаньні й радыё. Ён лічыць, што ў Расеі ўсталяваная дыктатура Ельцына, які паўтарыў шлях Пінахэта. Таварыш Чыкін патрабуе правесьці пазачарговую сэсію, каб разгледзець пытаньне аб адстаўцы Старшыні ВС Беларусі, які падтрымаў антыканстытуцыйны пераварот у Расеі.

### ПЛЁТКІ

Па Менску ходзяць плёткі, што спадар Чыкін зьяўляецца разьведчыкам, які вядзе падрыўную працу ўнутры шэрагаў камуністаў з мэтай іх дыскрэдытацыі й паступовага разбурэньня. Людзі ня могуць паверыць, што ён гэта шчыра гаворыць.

### ЦЫТАТЫ

Аналізуючы падзеі ў Маскве, Вячаслаў Францавіч Кебіч выступіў 4-га кастрычніка з заявай, у якой сказаў, што: «Абстаноўка ў рэспубліцы стабільная. У вабласьцях і раёнах завяршаецца ўборачная страда.

Да фінішу года мы прыйдзем з добрымі вынікамі. Атрыманы сапраўды рэкордны ўраджай збожжавых — 33,4 цэнтнэра з гэктару. Валавы збор зерня чакаецца на ўзроўні 0,7 млн. тонаў, а бульбы 10 млн. тонаў, што на шмат болей, чым у мінулым годзе. Высокі ўраджай цукровага бураку. У жніўні-верасьні атрымана болей мінулагодняга малака, мяса, іншай прадукцыі жывёлагадоўлі...»

**Я. ДУБРОЎСКІ,**
**Менск.**

## нацыяналіста»

Спадзяваньні ж нашы найбольш сягаюць зьмяненьняў палітычнай сітуацыі на Беларусі шляхам дэмакратычных выбараў. Праўда, мы не настолькі шматлікія і моцныя, каб праводзіць сваіх дэпутатаў. Але, відавочна, створым перадвыбарчы блёк з палітычнымі партыямі і рухамі хрысьціянска-дэмакратычнага накірунку, Сялянскай партыяй Беларусі. Аднак гэта яшчэ наперадзе.

**— Наша размова вымагае больш канкрэтных зьвестак аб партыі, яе сацыяльнай базе, месцы на сёньняшняй палітычнай арэне Беларусі.**

— Я ўжо казаў, што мы ня надта шматлікая арганізацыя. Увогуле стварэньне НДПБ вядзецца дагэтуль, паяўляюцца пярвічныя суполкі. Напрыклад, ёсьць моцная арганізацыйная структура ў Віцебску, філіі рэгіянальных Радаў ёсьць у Гомелі, Маладзечна, Жлобіне, Мядзелі...

Сваёй сацыяльнай базай лічым найперш інтэлігэнцыю як найбольш сьвядомую частку жыхарства рэспублікі. У нас няма выпадковых людзей, а толькі тыя, каму баліць сэрца за радзіму, яе справы. Хіба не да такіх адносіцца вядомы гісторык, сустаршыня нашай партыі Мікола Ермаловіч? Ёсьць і моладзь. Іншая справа, што трэба езьдзіць па рэспубліцы, сустракацца з аднадумцамі, ствараць філіі. Гэта патрабуе шмат вольнага часу і грошай, якіх у нас небагата.

**— Значыць, толькі недахопам часу і грошай можна лічыць адсутнасьць філіяў НДПБ на Брэстчыне і Гарадзеншчыне!**

— У пэўнай меры гэта так. Але названыя прычыны далёка не галоўныя. Я і сам зьдзіўляюся, чаму ў заходніх вабласьцях да гэтага часу няма акрэсьленага нацыянальна-дэмакратычнага руху. Дзе-дзе, а на Гарадзеншчыне ён павінен паўстаць. Край гэты спэцыфічны, з выразнымі этнічнымі групамі. Нацыянальная сьвядомасьць беларусаў павінна ўзьняцца да вышынь хаця б часоў Тарашкевіча, Ракa-Міхайлоўскага, Валошына, Дварчаніна.

**— Мы закранулі пытаньне аб месцы НДПБ сярод іншых партый і рухаў Беларусі...**

— Камуністычныя цяпер лічацца левымі. Сюды ж з пэўнымі агаворкамі можна паставіць сацыял-дэмакратаў. Беларускі народны фронт займае цэнтр. Мы ж схіляемся больш да правага боку. Ставім найперш нацыянальную ідэю праз чалавека, а пасьля дзяржаву. На першае месца вылучаем адраджэнчы працэс нацыянальна-дэмакратычнага характару і эканамічнае разьвіцьцё. Няма заможнага жыцьця без выхаваньня нацыянальна сьвядомага жыхара. Каўбаса і хлеб надзённы — яшчэ далёка не асноўныя запатрабаваньні асобы. Дый што казаць! Быў хлеб ў савецкага чалавека. Але чаму тады Саюз разваліўся? Свабоды не было, нацыянальнага адрозьненьня. Стварылі міфічны савецкі народ. Нібыта аджылі сваё Украіна, Малдова, Таджыкістан, Беларусь, нібыта няма украінцаў, малдаван, таджыкаў, беларусаў і іншых. Такая палітыка дорага каштавала кіраўнікам супэрдзяржавы. Няма монстра — СССР, а незалежныя рэспублікі, як бачым, шпарка крочаць наперад. Прычым, нацыянальная ідэя адыгрывае не апошнюю ролю ў станаўленьні сувэрэнных краін.

**— Тым ня менш, людзі, як ад халеры, кідаюцца ўбок пры словах нацыяналізм, нацыяналістычны, бо гэта ў іх уяўленьні вядзе да міжнацыянальных канфліктаў. А яны непазьбежныя, калі адна нацыя пачынае ўзвышацца над другой, альбо не паважаць рэлігію тых, хто жыве побач.**

— Па-першае, нацыяналізм блізкі па разуменьню да патрыятызму. У мінулым бальшавікі вельмі паважліва ставіліся да выхаваньня любові да Радзімы. А па сутнасьці гэта нацыяналізм. Толькі тут убівалася ў галовы адданасьць агульнай радзіме — СССР. Калі ж ты пачынаў гаварыць аб сапраўднай сваёй зямлі, дзе нарадзіўся, то табе тут жа чаплялі цэтлік — нацыяналіст. Дзіўна атрымлівалася! Слова «інтэрнацыяналізм» карысталася павагай і ўсяляк ухвалялася. Хаця ўдумайцеся — атрымліваецца як бы міжнародны нацыяналізм. Абсурд! Спроба забыць малое на карысьць вялікаму. Забыць сваё на карысьць эфэмэрнаму нашаму. Ішлі хлопцы гінуць у Афганістан, Прагу, Будапэшт. Не за інтарэсы, скажам, Беларусі, а за інтарэсы палітыкаў, незразумелых народу зьдзелак.

Па-другое, нацыяналізм яскрава праяўляецца там, дзе адна нацыя пачынае вырашаць свае праблемы за кошт другой. Хіба беларусы крыўдзяць этнічныя групы, якія жывуць на іх тэрыторыі? Не.

**— Ведаю, што вы падрыхтавалі да друку кнігу пад такой нечаканай назвай, як «Паслухайце нацыяналіста». Тут, мяркую, будзе поўнасьцю раскрыта гісторыя нацыянал-дэмакратызму, і ня толькі на абшарах Беларусі...**

— Так, на гэтых пытаньнях спынюся абавязкова. Больш падрабязна раскажу пра ідэялёгію руху, яго разьвіцьцё ў рэспубліцы, пачынаючы ад бальшавіцкага перавароту.

**— Калі вы ўзгадалі пра ідэялёгію, то да месца будзе пытаньне: нядаўна мы кіраваліся толькі марксісцка-ленінскім вучэньнем. Не атрымаецца так, што пры спрыяльных умовах можа адбыцца замена адной на другую!**

— Ні ў якім разе. Камуністычную ідэялёгію, якая не прызнае Бога, чалавечай асобы, а бачыць у кожным толькі вінцік, як казаў Ленін пра народ, «массу» — трэба судзіць. І не давядзі Гасподзь, калі гэтая ідэялёгія ў любым выглядзе зноў стане дзяржаўнай. Яна хутка паўторыць сваё вынаходніцтва — канцлягеры, захоп заложнікаў, высылкі, пазбаўленьне грамадзянства, расстрэлы, каб застрашыць людзей. Гэта было ў гісторыі, прычым нядаўна. З таго часу засталіся прапіска, каб прывязаць асобу да месца, раёны, створаныя, каб зручней было выяўляць «инакомыслящих». Галоўнае, засталіся носьбіты злачыннай ідэі. Гэта непакоіць, бо магчымы нечаканасьці, асабліва ў такой рэспубліцы, як Беларусь.

Мы ж нацыянал-дэмакраты. Адсюль усе формы і мэтады работы, уласьцівыя дэмакратычным каштоўнасьцям. І ніякіх нечаканасьцяў!

**Гутарыў В. ЗАДАЛЯ.**





# ДЗЁНЬНІКІ

# «Ойцовізна» Тадэвуша Гавіна

**Нядаўна ў Любліне Фундацыя імя Т. Ганевіча выдала кнігу старшыні Саюза Палякаў на Беларусі Т. Гавіна «Ойцовізна» — дзёньнікі 1986—93 гадоў. Тадэвуш Гавін нарадзіўся ў Ласосьне пад Горадняй, скончыў вайскова-інжынэрнае вучылішча і каля 25 гадоў служыў у пагранічных войсках, да рэзэрва пайшоў у чыне падпалкоўніка.**

**У другой палове 80-х вярнуўся ў Горадню з Далёкага Ўсходу. Тут узначаліў спачатку Таварыства імя А. Міцкевіча, а потым — Саюз Палякаў на Беларусі. Мы прадстаўляем выбраныя месцы з успамінаў Т. Гавіна — вядома, кожная выбарка суб´ектыўная, таму павінен растлумачыць, што найбольш цікавымі мне здаюцца адносіны паміж палякамі і беларусамі, адносіны СПБ з дзяржаўнымі ўладамі, а таксама адносіны паміж «адраджэнцамі» ды «інтэрнацыяналістамі», барацьба груповак...**

**Чаму так? Таму, што ў польскім асяроддзі цяпер адбываецца, як кажуць палякі, «выпіш-вымалюй!», тое ж самае, што ў беларускім, нічога новага... Нацыянальная псіхалёгія зьнішчаная. Мы паранейшаму «тутэйшыя», «савецкі народ» — і невядома, якое пакаленьне і якім коштам будзе, нарэшце, без гэтага кляйма.**

**Пры нагодзе дзякую пану Тадэвушу за падараваную кнігу.**

**Алесь ЧОБАТ.**

**Чэрвень 1986, Горадня.**

Семнаццаты год жыву здалёк ад родных мясьцінаў. Калі бываю тут, усё ясьней бачу, як людзі радзей і радзей гавораць па-польску. Чаму так? Хто вінаваты? Часта сам сябе пытаю пра гэта...

**Чэрвень 1987, Уладзівасток.**

Атрымаў ліст ад Аляксея Карпюка. Гэта першая рэакцыя на мой артыкул, высланы да «Гродзенскай праўды», дзе Карпюку паказалі яго па старому знаёмству. Беларускі пісьменьнік думае гэтаксама, як я! А мае землякі — палякі, ці гэта іх не цікавіць? Напэўна, у рэдакцыі працуюць палякі. Адказу з рэдакцыі няма...

**17 жніўня 1987, Горадня.**

Першы дзень на новай службе. Знаёмлюся са становішчам сувязі. Такое ўражаньне, што час тут спыніўся на пачатку 50-х...

**1 верасьня 1987, в. Ласосна.**

Запрошаны ў сваю колішнюю школу... У прамове шмат увагі прысьвяціў навучцы роднай мовы. У клясе амаль выключна палякі... Аднак бачу, што да сэрцаў тых дзяцей мае словы прабіцца ня здолелі... Адно, чаго пэўны: ніколі больш на падобнае мэрапрыемства мяне запрашаць ня будуць.

**Сьнежань 1987, Горадня.**

А. Карпюк напісаў чарговы ліст да М. Гарбачова наконт дыскрымінацыі палякаў на Беларусі...

**Май 1988, в. Ласосна.**

Сход бацькоў у школе на тэму навучаньня польскай мове. Мяне настаўнікі сустрэлі як няпрошанага госьця...

**2 чэрвеня 1988.**

Ранкам камандзір і нампаліт патрабавалі ад мяне тлумачэньня, чаго мяшаюся да навучальнага працэсу ў Ласосьне. Так, апарат спраўна працуе.

**21 ліпеня 1988, лес каля в. Сафіева.**

Сабралася нас пяць чалавек. Абгаварылі стварэньне Польскага Культурна-Асьветніцкага Таварыства...

**2 жніўня 1988.**

Затэлефанаваў А. Карпюк і прапанаваў сустрэцца. Пагаварыць пра справы выйшлі з яго габінэта ў парк: сьцеражэцца і, хіба, не без падставы...

**10 жніўня 1988.**

... дахаты прыехаў апоўначы. Сягоньня створана Польскае Таварыства імя А. Міцкевіча!

**30 сакавіка 1989.**

Унівэрсітэт. Рэпрэзэнтацыя кнігі С. Мусіенкі пра З. Налкоўскую. З польскага пасольства ў Маскве прысутнічае С. Мікульскі.

Папрасіў слова і шчыра сказаў, што мне вельмі шкада і балюча, што не полька напісала гэтую кнігу — сумны той факт, што няма ані польскай, ані польскамоўнай падрыхтаванай інтэлігэнцыі...

**18—24 красавіка 1989, Варшава.**

Нарэшце Варшава! Першы раз у гэтым месяцы. Новыя сустрэчы, новыя знаёмствы. Прыёмы ў біскупа Е. Дамброўскага, у ЦК ПАРП і інш.

**25 красавіка 1989.**

Камандаваньне забараніла дапускаць мяне да сакрэтнай дакумэнтацыі... Лягічна цяпер увогуле выгнаць мяне са службы — нават ня маю права заходзіць да габінэтаў сваіх падначаленых!..

**4 ліпеня 1989.**

Нарэшце пасылаем у Польшчу дзяцей на канікулы. На вакзале ня вытрымаў і зрабіў вострую заўвагу, калі пачуў, што амаль усе бацькі да дзяцей гавораць не па-польску, а па-расейску...

**12 ліпеня 1989.**

Тэлефанаваў у Менск да нам. міністра Людзьмілы Сухнат наконт нашых студэнтаў у Польшчы! — тое ж самае! «Ня нада»...

**13 ліпеня 1989.**

Цяпер тэлефаную ў Маскву ў ЦК КПСС — паабяцалі дапамагчы.

**14—20 ліпеня 1989, Варшава.**

Міністр адукацыі Польшчы праф. Ю. Фісяк даў мне гарантыйны ліст, што Польшча прыймае нашу моладзь на вучэльні, забясьпечвае сродкамі, кватэрамі і г. д. Менавіта на адсутнасьць сродкаў спасылаліся нашыя бюракраты.

**1 жніўня 1989.**

Праклятае кола! Ніхто нічога не вырашае са студэнтамі... Бацькі сабралі 900 подпісаў пад лістом да СМ БССР, дэлегацыя едзе да Л. Сухнат у міністэрства адукацыі...

**18 жніўня 1989.**

Пасьля тэлефона з маскоўскага ЦК сустрэча з другім сакратаром абкаму І. Машко. Хоча дапамагчы, але ня ведае, як...

**25 жніўня 1989.**

Бацькі штурмуюць абкам і аблвыканкам. У адказ нехта пусьціў плётку, што за выезд да Польшчы я бяру «на лапу».

**28 жніўня 1989.**

На сустрэчы ў Д. Арцымені тыя ж абвінавачаньні. Але, здаецца, штосьці зрушыла з месца.

**2 кастрычніка 1989.**

Нарэшце група нашых студэнтаў выяжджае да Польшчы — у Лодзь і Люблін.

**18 лістапада 1989, Лодзь.**

Сустрэча з нашымі студэнтамі ва ўнівэрсітэце. Моладзь вельмі задаволеная. Нашыя дзяўчаты прыгожыя — баюся, каб лодзкія хлопцы ў нас іх не адабралі. Не хацеў бы таго, таму што ад кожнага студэнта залежыць наша будучыня, кожнаму ёсьць што рабіць — перадусім ад іх залежыць, ці ўваскрэсьне польскасьць на Гарадзеншчыне.

**1 лютага 1990.**

Зарэгістравалі мяне як кандыдата ў Вярхоўны Савет БССР...

**4 лютага 1990.**

У Навумовічах была сустрэча з выбаршчыкамі. Першы раз пасьля вайны на афіцыйнай сустрэчы гаворыць па-польску! Людзі за мяне. Але адна жанчына прамаўляе зусім па-сталінску і выходзіць з клюбу — пасьля званка да начальства вяртаецца: сказалі, каб паслухала, пра што мы гаворым. Суседка яе потым пераказала мне яе словы, маўляў, такіх, як я, пазабівала б уласнымі рукамі!

**17 лютага 1990.**

Сустрэчы з выбаршчыкамі адбываюцца па-рознаму. Мой народ яшчэ сьпіць. Частка выбаршчыкаў, палякаў, незадаволеная, што Таварыства імя А. Міцкевіча ўтварыла блёк «Саветы-90» разам з БНФ, Таварыствам імя А. Сахарава і каапэратарамі. Партакраты і бюракраты прыгаталаваліся змагацца з намі, таму што Праграма «Саветаў-90» патрабуе скасаваць 6 артыкул Канстытуцыі пра кіруючую ролю КПСС. Шмат хто лічыць, што праз гэта губляем галасы. Цалкам магчыма — нават у нашай Управе ПКАТ ёсьць людзі, якія лічаць, што ня трэба мець палітычнай плятформы, ня трэба канфліктаваць з партыяй і ўладай. Думаю інакш: ідзем правільным шляхам...

**5 сакавіка 1990.**

1.50. Тэлефанаваў А. Пацэнка і паведаміў пра вынікі выбараў. На жаль, прайграў. Цяжка паверыць — не хапіла 122 галасоў.

15.00. Тэлефанавала чалавек дзесяць, усе апавядаюць пра факты фальшаваньня і падтасовак.

**16 сакавіка 1990.**

Ад першых хвілінаў сустрэчы з прадстаўнікамі Цэнтральнай Выбарчай Камісіі з Менску стала ясна, што фальш ня выйдзе на паверхню і што мая кандыдатура адхіленая...

**17 жніўня 1990.**

Была непрыемная размова з адным сябрам нашага Таварыства з Ваўкавыску, чый сын мае выехаць да Польшчы вучыцца. На папярэдняй размове сказаў, што яны палякі, а калі дайшло да дакумэнтаў, у сына ў пашпарце, аказваецца, напісана «беларус» — а запіс зроблены ў мінулым сьнежні, калі ўжо ня меў чаго баяцца! Бацька пераконваў, які з яго сына патрыёт... Думаю, што так проста хацеў бяз лішніх клопатаў атрымаць у школе залатыя мэдаль. Хацеў бы, каб менш было такіх «патрыётаў»...

**23 жніўня 1990, Ліда.**

Удзельнічаў у паседжаньні Управы нашага Таварыства ў Лідзе. Шчыра пагаварылі. Ясна відаць дзейнасьць групы, апазыцыйнай старшыні Казіміру Ходару. Асобныя сябры Таварыства, самі таго не разумеючы, дзейнічаюць насуперак нашаму адраджэньню. Доўга іх пераконваў, што толькі ў адзінстве наша сіла, толькі так зможам нешта зрабіць.

**30 верасьня 1990.**

Першы мітынг Саюза Палякаў, дзе мы выказалі свае патрабаваньні... Удзельнічалі таксама дзеячы БНФ і Дэмакратычнай Партыі Беларусі. Выступілі Аляксей Пяткевіч, прафэсар унівэрсітэту, і Віктар Дзьмітрыеў, журналіст. Нашыя адносіны вельмі добрыя. Нарэшце ўсе зразумелі, што мы патрэбныя адны другім. А. Пяткевіч раней трымаўся ад нас на дыстанцыі, а яго выказваньні наконт палякаў у беларускай прэсе не заўжды былі ўзважаныя. Але сягоньня яго прамова спадабалася ўсім: найважнейшае тое, што як адзін з лідэраў БНФ ня толькі падтрымаў нас, але таксама сказаў, што колькасьць школаў у вобласьці павінна быць прапарцыянальная працэнту насельніцтва. З гэтага вынікае, што 26 прац. школаў павінны быць польскімі — гэта наша вялікая перамога ў адносінах з БНФ. Далі таксама слова і шэфу аблана сп. Гаўрону, які пачаў даводзіць, што ўсё добра і г. д.

**1 студзеня 1991.**

Прыехаў рэдактар будучай польскай газэты «Ойчызна» Фэлікс Мяркулаў. Газэта прызначаная для палякаў на Летуве, будзе выходзіць у Вільні. Цікава, што гэты капітан Савецкай Арміі прыкамандзіраваны (!) да ЦК КПЛ — КПСС — каб выдаваць газэту! Адначасова працягвае служыць і атрымлівае жолд... Выходзіць так, што цяпер патрэбныя акрэсьленыя заслугі і давер палітычнай сістэмы. Задаволены, што я на такое не заслужыў. Напрыканцы размовы сказаў яму, што ён расеец і не павінен лезьці ў нашыя справы. Таксама ясна сказаў, што ніякага супрацоўніцтва між намі ня будзе.

**13—14 студзеня 1991.**

Страшныя, крывавыя падзеі ў Вільні. Многа забітых і параненых. Ізноў танкі?!

Упэўнены: правакацыя зробленая пад кіраўніцтвам Масквы...

**15 студзеня 1991.**

На супольным сходзе Таварыства, Рады БНФ і Управы ДПБ прыймаем рэзалюцыю з асуджэньнем агрэсіі супраць Летувы. Прынятая аднагалосна, распаўсюджваем яе, дзе толькі можам...

**17 лютага 1991.**

Выступіў на канфэрэнцыі мясцовага БНФ. Сказаў, што мы гатовыя супрацоўнічаць з усімі дэмакратычнымі сіламі супраць КПСС... Потым доўга размаўлялі з М. Маркевічам, народным дэпутатам Беларусі; яго погляды шмат дзе адпавядаюць маім.

**9 сакавіка 1991.**

Паседжаньне вабласной Управы СПБ. Паколькі СПБ нарэшце зарэгістраваны, коратка ахарактарызаваў палітычнае становішча на Беларусі. Калі скончылі, падыйшла пані У. Ядкоўская з В. Эйсмантаў і сказала: «Прыяжджалі да нас двух з Польшчы і распытвалі пра пана, ці пан паляк і г. д.» Гэта ня першы раз. Чужы сярод чужых. Чужы сярод сваіх. На працы для ўсіх паляк, а ў Польшчы ды СПБ — як для каго...

**22 жніўня 1991.**

Правал путчу! Няма як адарвацца ад ТБ ці радыё. Сягоньня сустрэўся з калегам па былой службе. Той сказаў, што камандаваньне Акругі падтрымала путч, што цэлы час ішлі загады «арганізаваць» падтрымку хунты і г. д. Маскоўскія злодзеі прэм´ер Паўлаў і старшыня КДБ Кручкоў напярэдадні разаслалі паведамленьне, што афіцэры за ліпень і жнівень дастануць падвойную пэнсію — забралі тыя грошы ў народа, які войска павінна было забіваць...

**30 жніўня 1991.**

Тэлефанавалі з ВС БССР, што з Гарадзеншчыны прыяжджала польская 10-асабовая дэлегацыя.

Прывозіла яе адна дзяячка СПБ, якая лічыць, што трэба змагацца за польска-расейскія школы і што беларуская мова непатрэбная. Шмат разоў стараўся яе пераканаць, што такі шлях вядзе нікуды.

